БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

6 снежня 1994 г.

Аўторак

№ 131 (13848)

Кошт у розніцу 40 рублёў

Выдаецца з 1921 года


Малюнак В. САКОВІЧА.

Адкрыў новы сезон тэатр "Лялька" ў Віцебску. Радасць навасельля звязана і яшчэ з адной прыемнай падзеяй. На прайшоўшым у горадзе Ужгарад трэцім Міжнародным фестывалі "Інтэрлялька-94", у якім прынялі ўдзел калектывы з Расіі, ЗША, Чэхіі, Сербіі, Венгрыі, Румыніі, Украіны, віцебскія лялечнікі занялі першае месца. А галоўны мастак тэатра Аляксандр Сідараў стаў лаўрэатам прэміі імя Л.Мазалеўскай за сцэнаграфію спектакля "Загубленая душа".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**

## Кур'ер "ЧЗ"

### Глядзім у космас

*У Мінску завяршылася пасяджэнне Міждзяржаўнага савета СНД па космасу, у якім прынялі ўдзел зацікаўленыя ведамствы Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана.*

Разглядаўся ход выканання праграмы даследавання і выкарыстання касмічнай прасторы ў 1994 годзе, працягвалася распрацоўка канцэпцыі сумеснай дзейнасці дзяржаў-удзельніц, занятых у ёй, а таксама разгледжаны пытанні ўзаемаразлікаў і фінансавання. Шмат увагі было ўдзелена асэнсаванню праекта міждзяржаўнай касмічнай праграмы на 1995 год. З беларускага боку ў нарадзе прымалі ўдзел спецыялісты Інстытута цепла- і масаабмену, Інстытута тэхнічнай кібернетыкі, Інстытута фізікі Акадэміі навук, ЦКБ "Пеленг" і БЕЛОМА.

### Хто з'еў масла?

*Магілёўскі гарвыканкам "парадаваў" грамадзян абласнога цэнтра талоннай сістэмай на набыццё масла і сыру. З гэтага часу кожнаму едаку належыць адпаведна па дзвесце і чатырыста грамаў гэтых "далікатэсаў". Хочаш — з'еш адразу або — расцягні на месяц. Аднак устаноўленая ўладамі норма датычыць толькі простых смяротных. Для выбраных — можна і тонамі!*

Гэтымі днямі Магілёў узрушыла чарговая сенсацыя на тэму масла, якую абнародаваў сам прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка на сесіі абласнога савета. Аказваецца, у той час, калі гараджане зацягваюць паясы, першы намеснік старшыні аблвыканкама, дэпутат Вярхоўнага Савета Генрых Яскевіч распарадзіўся выдзеліць 525 тон масла калгасу імя Суворава Магілёўскага раёна. Дэфіцытны прадукт харчавання забралі ў асноўным з фонду стабілізацыі "на набыццё абсталявання для будаўніцтва свінакомплексу". На ім калгасныя камерсанты выручылі звыш 2 мільярдаў 209 мільёнаў рублёў. Між тым, на будаўніцтва комплексу выкарыстаны ўсяго толькі 44 мільёны. А дзе ж астатняя выручка? 93 працэнты яе пайшло на закупку алкагольнай "барматухі" ў паўднёвых рэспубліках, але калгас ад гэтага не разбагацеў. Наадварот, на яго рахунку ў канцы лістапада быў толькі 1 рубель 92 капейкі. Акрамя таго, запазычанасць дзяржаве складала больш за 252 мільёны рублёў без непагашаных кароткатэрміновых крэдытаў...

У выніку службе прэзідэнцкага кантролю прыходзіцца цяпер ламаць галаву над вырашэннем арыфметычнай задачы з многімі невядомымі. Пакуль жа ясна адно: гэта звычайная афёра, і яе "аўтарам" прыйдзецца адказваць перад законам.

### Дайце жыць дастойна

*Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі (АНПП), заклапочаная абвальным збядненнем працоўных, выступіла з заявай у адрас выканаўчай улады краіны.*

У ёй гаворыцца, што любыя дзеянні ўрада па павышэнню цэн, тарыфаў, камунальных паслуг не дапушчальныя без папярэдняга павышэння заработнай платы і даходаў насельніцтва. На думку АНПП, меры сацыяльнай абароны, арыентаваныя выключна на найменш забяспечаныя слаі насельніцтва праз адрасныя выплаты і дапамогі, не даюць магчымасці кампенсаваць цэнавыя ўдары для большасці грамадзян рэспублікі, якія сталі беднякамі.

У сваёй заяве асацыяцыя запатрабавала ад прэзідэнта і Кабінета Міністраў прыняць указ або пастанову аб першачарговай выплаце заработнай платы да адлічэння ў бюджэт і іншых абавязковых плацяжоў для прамысловых прадпрыемстваў. АНПП настойвае і на пераразліку спажывецкага бюджэту з улікам абвальнага падаражання жыцця, а таксама павелічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду да 70 працэнтаў ад мінімальнай спажывецкай карзіны.

Асацыяцыя заклікала ўлады да рэалізацыі прапанаванага ёю раней комплексу мер па ажыўленню вытворчасці. Гэтым, лічыць АНПП, будуць створаны ўмовы для павышэння ў 3—4 разы зарплаты на прамысловых прадпрыемствах краіны.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Падарунак да юбілею

*У канцы снежня светлагорскае ВА "Хімвалакно" адзначыць сваё 30-годдзе.*

Да юбілею светлагорскія хімікі рыхтуюць добры падарунак. На канец года намечаны ўвод у эксплуатацыю лініі па вытворчасці нятканых матэрыялаў тыпу "спанбонд", якія знойдуць шырокае прымяненне ў медыцыне, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве і г.д.

**(УЛ. ІНФ.)**

### На фермера спадзявайся, а жыта сей...

*Толькі адна фермерская гаспадарка на Расоншчыне (тая, што належыць С.Пакатаву) працуе больш-менш вынікова. Астатнія адзінаццаць забяспечваюць прадукцыяй фактычна толькі саміх сябе...*

Між тым, за фермерамі тут замацавана 317,4 гектара зямлі, у тым ліку 115 гектараў ворыва. Спадзявацца ж гараджанам застаецца ўсё на тыя ж калгасы і саўгасы, ды яшчэ... на Бога.

**Уладзімір МІХНО.**

### Каму патрэбны добрыя адзнакі

*Калгасныя стыпендыі за першую чвэрць атрымалі дзесяць выдатнікаў і дваццаць два вучні Свяцілавіцкай сярэдняй школы Бялыніцкага раёна, якія займаюцца на "чатыры" і "пяць".*

Такое заахвочванне вучняў устанавіла праўленне мясцовага калгаса імя Заслонава. Для выдатнікаў памеры стыпендый — дзесяць тысяч рублёў, а для тых, хто вучыцца на "чатыры" і "пяць", — удвая менш.

### Распранулі... сышчыка

*Пацярпеў віцебскі маёр міліцыі, старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку. Невядомыя ў поўным сэнсе слова распранулі чалавека прама на вуліцы — забралі шапку, паліто і нават боты. Папярэдне, зламаўшы супраціўленне, збілі.*

Добра яшчэ, што на месцы нахабнага злачынства выпадкова апынуліся супрацоўнікі аховы чыгуначнага аддзела малодшы лейтэнант І.Івашчанка і сяржант В.Кіслоў. Яны здолелі хутка затрымаць аднаго з рабаўнікоў, раней судзімага.

**БЕЛІНФАРМ.**

### "Сараева: жыццё пад агнём"

*Менавіта так называлася праграма, якую з 2 па 4 снежня прапанавалі мінскаму гледачу члены кінагрупы САГА. "Югаславія: вытокі вайны", "Вуліцы пад агнём", "У чаканні лепшых перамен" — гэтыя і многія іншыя стужкі югаслаўскіх кінематаграфістаў выклікалі вялікую цікавасць у мінчан і сталі прычынай шматлікіх дыскусій гледачоў з членамі кінагрупы САГА.*

Паказ фільмаў праходзіў у сталічным Доме літаратара, а такая магчымасць з'явілася дзякуючы Беларускаму Фонду Сораса, Інстытуту адкрытага грамадства (Будапешт) і Міжнароднаму фонду фільмаў па правах чалавека.

**Майя ШЭНДРЫК.**

### Віншуем!

*Сёння выйшаў тысячны нумар "Народнай газеты".*

Віншуем калег з юбілеем, жадаем і надалей заставацца такімі ж блізкімі да народа.

### Курсы валют на 5 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8010 | 8250 | 5126 | 5033 |
| "Дукат" | 7900 | 8200 | 5000 | 5200 |
| "Прыор" | 8050 | 8400 | 5160 | 5390 |

**"ПАС" — ПАЛІТЫКА-АНАЛІТЫЧНАЯ СЛУЖБА**

# Была не памяць важнай...

*Ніхто не прыпомніць, каб у Беларусі забаранялася ўскладаць кветкі да помнікаў-абеліскаў і ўшаноўваць гістарычныя даты агульнай беларуска-рускай гісторыі. Тым больш, гісторыі далёкай, якая ніякім чынам не раздзяляла нашых продкаў па палітычных матывах і не завяшчала ў адносінах да сябе рабіць гэта раздзяленне сённяшнім пакаленням.*

Два гады назад, калі адзначалася больш-менш круглая юбілейная дата — 180-годдзе вызвалення Віцебшчыны ад войскаў імператара Напалеона, аніякіх супярэчлівых прыкмет сярод гараджан яшчэ не назіралася. Праходзіла традыцыйная ўрачыстасць, гучалі ўслаўляючыя прамовы і, зразумела, былі музыка і кветкі.

Сціпла, але з памяццю аб мінулым, як і раней, так і нядаўна, прыходзілі вучні віцебскіх школ да гранітнага шпіля помніка, над якім сядзіць залаты арол, каб даведацца пра гісторыю яго стварэння, пра славутую сумесную старонку двух славянскіх народаў.

Але ў 1994-м, напрыканцы кастрычніка, і сама гістарычная дата, і сам помнік-абеліск набылі нейкі трывожны палітычны змест. Для ўскладання кветак, якое нікому не забаронена, славянскі сабор "Белая Русь" запатрабаваў права на правядзенне мітынгу. Дазвол быў дадзены, і літаральна ўсе мясцовыя газеты застракацелі аб'явамі пра гэты мітынг.

Ці адбылося ўшанаванне гістарычнай даты — 182-й гадавіны з дня нараджэння напалеонаўскіх войск на прыдзвінскай зямлі, сказаць вельмі цяжка. Бо толькі напачатку ўрачыстасці было сказана некалькі слоў аб самой даце ды гісторыі стварэння помніка. Цяжка сказаць, ці адбыўся і сам мітынг, паколькі прысутнічала на ім чалавек пятнаццаць арганізатараў-выступоўцаў, чалавек пяць журналістаў і некалькі пенсіянераў, якія штодня адпачываюць тут на лавачках скверыка. Было яшчэ пяць-дзесяць прахожых, што падыходзілі да помніка, каб пацікавіцца чарадой людзей з трыма чорнымі сцягамі ды з такімі ж (з жоўтай палоскай) павязкамі на рукавах.

Выпадковыя наведвальнікі мітынгу здзіўлена чыталі самаробны плакацік, дзе гаварылася, што "Славянскія сокалы — за адзіную і недзялімую Русь", ды няўпэўнена сцвярджалі, што ў цяперашняй Расіі зусім не такія дзяржаўныя сцягі.

Невыпадковыя ж, сярод якіх былі сябры дэмакратычных партый, паглядзеўшы на ўсё гэта ды паслухаўшы, адчулі сябе проста абражанымі: "Калі помнік іх, перамога іх, то самі няхай і адзначаюць. Але, што і зямля іх, ці не занадта?!"

Выказванні наконт таго, што "рускія войскі вызвалілі ад Напалеона сваю родную і шматпакутную віцебскую зямлю", напачатку, хоць і з сумненнямі, успрымаліся як наша агульная зямля зямля беларусаў і рускіх. Але неўзабаве з вуснаў выступаючых пайшла канкрэтызацыя без усялякага сумневу. Сумна вядомая па сваіх абразлівых артыкульчыках у некаторых газетах пенсіянерка Муза Тарасевіч, што вырашыла да апошніх дзён змагацца з цемрашальствам беларусізацыі, пачала са злосцю абурацца "нацыяналістам Станіславам Шушкевічам, які распачаў уводзіць чужую ім ліцвінскую мову" ды некалі цынічна заявіў, што "Барысаў быў, ёсць і будзе беларускім гарадам".

Затым старшыня гарадской ліберальна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага давёў, што некаторым ліцвінам хочацца, каб і Віцебск быў ліцвінскім, каб неіснуючай мовай гвалтаваліся дзеці, каб "расчлянілася наша вялікая Русь ад Балтыкі да Курылаў". Адначасова ён заклікаў уліваецца ў рады сваёй адзіна правільнай партыі, паколькі яна толькі што ўтварылася з некалькіх чалавек.

Але адзіна правільнымі лічылі свае партыі і свае выступленні і іншыя ўдзельнікі мітынгу. Напрыклад, з прамовы старшыні ўправы гарадской думы (вось як у Віцебску!) можна было зразумець, што прэзідэнту няма чаго клапаціцца аб рэфармаванні органаў улады, прызначаць нейкіх мэраў, калі ўжо ёсць управа як структура адзінай рускай дзяржавы.

— На фіга мне твая хвалёная дэмакратыя (?), сказаў рускі мужык Напалеону ў 1812 годзе, — гаварыў А.Мішурны. — Так і цяпер мы, рускія, павінны сказаць гэтак жа. Наша слаўнае мінулае павінна стаць грунтам для нашай слаўнай будучыні.

Славянасабарыст В.Уткевіч, стаўшы пад манархічны сцяг ля мікрафона, быў яшчэ больш катэгарычным: "Халуі, якія хадзілі пад бел-чырвона-белым сцягам у часы апошняй вайны, халуі, якія ходзяць пад гэтым флагам цяпер, павінны пакінуць нашу зямлю. Хай, калі яны ліцвіны, едуць у Літву, едуць у Польшчу ці Амерыку!.. З намі Бог!

Думаецца, пачуўшы такія парады, ніхто не кінецца збіраць чамаданы, каб пакінуць сваю родную беларускую зямлю. Тым больш, што апошнім часам ініцыятарам правядзення рэферэндуму па дэнансацыі белавежскіх пагадненняў і па ўвядзенню двухмоўя катэгарычна адмоўлена. І тут Уткевічу, дарэчы, выкладчыку педінстытута і беларусу(?) па нацыянальнасці, варта было б думаць, што зрываецца з яго вуснаў. Варта б было падумаць і Ю.Пазнякову, які лічыць сябе каардынатарам ужо неіснуючага народнага руху, паколькі самая масавая партыя камуністаў выйшла з яго. Думаецца, яна пасля выступлення ў "Народнай газеце" былога кандыдата ў прэзідэнты В.Новікава, зразумела, хто такі Гайдукевіч і хто такі віцебскі лідэр, у прыватнасці.

Наконт сімволікі, ініцыятарам урачыстасці трэба было быць таксама вельмі і вельмі асцярожнымі. Паколькі сёння, пасля адмовы ў правядзенні рэферэндуму па двух вышэй указаных пытаннях, незразумела толькі сляпому, чаму не магло быць змены сімволікі. Камуністы ўжо не змогуць патрабаваць вяртання старых сімвалаў, бо гэта зноў жа будзе супярэчыць Канстытуцыі, таму што няма ні СССР, ні БССР, і стаць пад манархічныя чорныя сцягі, нават недзяржаўныя сцягі Расіі, яны не захочуць, як не пажадае гэтага і ўвесь беларускі народ. Так што аб'яднанне ў адзіную манархічную, прычым, дзяржаву не прадбачыцца.

Кажуць, хто нідзе не праявіўся, стварае партыю ды б'е кулаком у грудзі або арганізуе мітынгі і сатрасае паветра. Такое вось сатрасанне і адбылося ля помніка героям вайны 1812 года ў Віцебску. "Славянскія сокалы", што больш па знешняму выгляду напаміналі абшчыпаных верабейчыкаў, пачырыкалі ля абеліска для саміх сябе і разляцеліся ў поўнай гатоўнасці аб'ядноўваць сілы пад сваім сцягам за адзіную славянскую дзяржаву Русь, у барацьбе супраць "паскудных падручнікаў, якія выдаюць ліцвіны для рускіх беларусаў".

Асабіста мне было шкада, што "мітынг", які меў палітычную задуму прыцягнуць вялікую колькасць гараджан, аказаўся такім малалюдным. Хай бы людзі падобраму адзначылі гістарычную дату ды паслухалі б культуру мовы барацьбітоў супраць "культурнага генацыду", які праводзяць "нацыяналісты". І асабліва шкада, што не было камуністаў. Вось тут яны канчаткова б зразумелі, хто падштурхоўвае іх на змену дзяржаўнай сімволікі. Ды ёсць спадзяванне, што апошнім часам яны многае зразумелі. Мо таму і не прыйшлі...

Гэта, здаецца, лагічна. Бо, калі нехта "цягне ў буржуазны захад, а нехта — у манархічны ўсход", лепей заставацца на сваёй нейтральнай Беларусі ды мацаваць яе агульнымі сіламі.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5"

### ДУМАЮЧЫ ПРА МІР, РЫХТУЮЦЦА ДА ВАЙНЫ?

*Біл Клінтан збіраецца павялічыць расходы на абарону, выдзеліўшы ваенным яшчэ 25 мільярдаў даляраў.*

Як заявіла Міністэрства абароны ЗША гэтыя грошы пойдуць на паляпшэнне баяздольнасці арміі.

### І Ў АЛБАНІІ – МІНІСТРАЎ ЗВАЛЬНЯЮЦЬ

*У Албаніі сфарміраваны новы Кабінет Міністраў.*

Абноўлена амаль палова ўрада. Перастаноўкі тлумачацца тым, што многія з былых міністраў удзельнічалі ў шматлікіх карупцыйных скандалах, акрамя таго, ўлічана думка насельніцтва. Па выніках рэферэндуму, албанскія грамадзяне прагаласавалі за новы ўрад.

### КОЛЬКІ ВЯРОВАЧЦЫ НІ ВІЦЦА

*У Парыжы паліцыя арыштавала аднаго з удзельнікаў злачынства, якое адбылося ў 1989 годзе, калі ў пасажырскі самалёт, на борце якога знаходзілася 170 чалавек, была падкладзена бомба.*

Усе пасажыры загінулі ў выніку выбуху. На гэтым тыдні адбудзецца допыт абвінавачанага і слуханне справы.

### "БЕРЛУСКАНІЯДА"

*Тысячы дэманстрантаў выйшлі на вуліцы Рыма, каб выказаць падтрымку прэм'ер-міністру Сільвіо Берлусконі, які абвінавачаны ў карупцыі.*

У асноўным гэта былі члены кансерватыўнай партыі Італіі — прыхільнікі Берлусконі. Адначасова ў іншых гарадах Італіі прайшлі дэманстрацыі, удзельнікі якіх патрабавалі, каб прэм'ер быў пакараны за карупцыйныя махінацыі.

### ТАКІЯ ІНШАЗЕМЦЫ НЕ ПАТРЭБНЫ

*У Швейцарыі адбыўся рэферэндум аб становішчы замежных грамадзян у краіне.*

72,9 працэнта насельніцтва выступілі за больш строгі кантроль за іншаземцамі. Так, швейцарцы, выказаліся за тое, што ўсе іншаземцы, якія жывуць у Швейцарыі больш як 12 месяцаў, павінны мець пры сабе дазвол на знаходжанне, інакш яны будуць арыштаваны. Такая грамадская думка тлумачыцца вялікім наплывам бежанцаў у Швейцарыю і павелічэннем злачыннасці і наркаманіі ў краіне.

### ТЭРАРЫСТЫ Ў ПАЛІЦЭЙСКАЙ ФОРМЕ

*У паўночнай Італіі арыштавана 6 тэрарыстаў у паліцэйскай форме.*

6 гадоў яны працавалі паліцэйскімі і адначасова ўваходзілі ў тэрарыстычныя арганізацыі. На іх ліку забойствы, узброеныя налёты, а таксама падрыўныя дыверсіі.

### ДЛЯ БРАТОЎ ПА РЭЛІГІІ

*15 тысяч турэцкіх дэманстрантаў патрабавалі ў свайго ўрада выдзялення дапамогі для падтрымкі братоў па рэлігіі ў Босніі.*

Мусульмане крытыкавалі таксама бяздзейнасць ЗША. Адначасова з мітынгам быў арганізаваны збор сродкаў для бядотных мусульман у Босніі. У дэманстрацыі прыняла ўдзел жонка Ізетбегавіча, лідэра баснійскіх мусульман, якая стала адным з арганізатараў гэтай акцыі.

### СМЕРЦЬ ДУХОЎНАГА ПРАВАДЫРА

*Ва ўзросце амаль ста гадоў у Іране памёр адзін з ісламскіх лідэраў — аятала Мухамат Алі Аракі.*

Жалобная цырымонія развітання з духоўным настаўнікам мусульман-шыітаў адбывалася цэлы тыдзень. Пераемнік Алі Аракі пакуль што не выбраны.


*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## ДЗЕ ЛЕПШ НАБЫВАЦЬ АЎТАДЭТАЛІ?

*"У сваёй рубрыцы вы ўжо расказвалі, дзе лепш купіць машыну. Хацелася б ведаць тое самае, толькі пра аўтадэталі.*

**Д.СТРЭЛЬЧАНКА, г.Мінск".**

Структура рынку аўтадэталяў і запасных агрэгатаў больш складаная, чым структура рынку аўтамабіляў. Аўтадэталямі таксама гандлююць оптам заводы-вытворцы. Тэарэтычна можна паехаць, каб праз аддзел збыту зусім легальна купіць оптам неабходныя дэталі, затым адну пакінуць сабе, а астатнія прадаць. Але гэта дастаткова складаны шлях, і на практыцы прыватныя аўтаўладальнікі яго не выбіраюць.

Больш зручна звярнуцца на аптовы склад, які забяспечвае сетку мясцовых магазінаў і рыначных гандляроў. У іх можна знайсці тэлефон бліжэйшага сховішча. З прыватнай асобай з-за адной дэталі склад, хутчэй за ўсё, не стане займацца, але невялікую аптовую партыю можа прадаць. Кошт будзе прыкладна на 15 працэнтаў вышэйшы, чым заводскі.

Наступная ступень — невялікі аўтарынак. Звычайна такія рынкі ўзнікаюць каля аўтамагазінаў, куды з'язджаюцца латочнікі. Тут нацэнкі складуць 25—30 працэнтаў.

Лепш буйныя рынкі, дзе адначасова гандлююць сотні латочнікаў. Тут усё танней, чым на дробным рынку: нацэнка 15-20 працэнтаў.

Яшчэ лепш купляць у спецыялізаваных магазінах "Аўтазапчасткі". Як правіла, гэта невялікія гандлёвыя кропкі, і нацэнка тут невялікая: 10-12 працэнтаў.

Палаткі і латкі ўздоўж магістралей больш разлічаны на чалавека, які апынуўся ў цяжкім становішчы і не будзе асабліва спрачацца з-за кошту. Не да спрэчак, калі нечакана выцекла масла ці "паляцеў" рэмень генератара, а ў запасе з сабой нічога не аказалася. Вось тут максімальныя цэны, якія могуць даходзіць да 300 працэнтаў у параўнанні з заводскай цаной. Падбор тавараў у гэтых палатках адпаведны: рамяні, масла, свечкі, тасол. Але ў экстрэмальнай сітуацыі, калі машына стала, а ехаць трэба, латок з краю дарогі — гэта ўсё ж выратаванне.

І апошняе — гэта свабодны рынак: гандлююць аўтадэталямі прыватныя асобы па аб'явах у газетах. "Накрутка" тут таксама максімальная і даходзіць да 300 працэнтаў. І гэта катэгорыя прадаўцоў звычайна разлічвае на чалавека ў цяжкім становішчы. Па аб'яве можна набыць самыя дэфіцытныя дэталі, але будзьце гатовыя да таго, што заплаціць за іх прыйдзецца ў тры разы даражэй.

## ПАШТАЛЬЁНЫ– "НАВОДЧЫКІ"?

*"Вярнуўшыся з працяглай камандзіроўкі, убачыў, што мая паштовая скрынка літаральна забіта не толькі карэспандэнцыяй, але і ўсялякай рэкламай. Ад'язджаючы, я пакінуў заяву, каб газеты мне часова не прыносілі. Бо вядома, што перапоўненая паштовая скрынка — сігнал для зладзеяў: маўляў, гаспадары ў ад'ездзе. Цікава, ці будуць у выпадку крадзяжу работнікі пошты несці юрыдычную адказнасць як "наводчыкі"?*

**М.ХАРУЖА, г.Мінск."**

На Мінскім галоўпаштамце нам адказалі, што ў выпадку абрабавання кватэры паштовыя работнікі за трэціх асоб, г.зн. за злачынцаў, адказнасці несці не збіраюцца, таму што пакараць іх можна толькі за недастаўку карэспандэнцыі. Ды і артыкула такога ў нашым заканадаўстве проста няма.

Мы ж раім — у выпадку ад'езду ключ ад паштовай скрыні пакідаць суседзям. У такой сітуацыі гэта самае простае выйсце са становішча. Ці самі прыдумайце што-небудзь, а кемлівасцю, як вядома, нашы людзі не абдзелены.

## АКЦЁР – ЗАЎСЁДЫ АКЦЁР

*"Доўгі час я працаваў акцёрам, пакуль у мінулым годзе не страціў нагу ў аўтамабільнай катастрофе. Можа быць, ёсць дзе-небудзь тэатр, у якім я мог бы займацца сваім рамяством, нягледзячы на інваліднасць?*

**А.ШУБТА, г.Мінск."**

Наколькі нам вядома, толькі ў Маскве існуе той тэатр, які вам патрэбен. Гэта "Тэатр дзядзечкі Эдуарда". У яго трупе звыш 20 акцёраў, большасць з якіх могуць рухацца толькі ў калясках ці на мыліцах. Ён дзейнічае на базе Усерасійскага таварыства сляпых (вул.Кедусінена, 19а). У яго рэпертуары ёсць, напрыклад, п'еса Ф.Гарсіі Лоркі "Дом Бернарды Альбы". Рыхтуецца да пастаноўкі адной з маленькіх трагедый А.Пушкіна "Баляванне у час чумы".

## МУСУЛЬМАНСКІ СТЫЛЬ

*"Чаму ў большасці мусульманскіх народаў цюбецейкі круглыя, а узбекаі носяць квадратныя?*

**П.КАЛІГІН, Орша."**

Перш-наперш, існуюць жаночыя цюбецейкі і мужчынскія. Ва Узбекістане, як і ва ўсім свеце, жанчыны любяць прыгожа апранацца і таму мадыфікацый жаночых цюбецеек больш. Увогуле існуюць некалькі тыпаў цюбецеек: сурхандар'інская, бухарская і чустская (ферганская), якія маюць розныя формы. Самая папулярная — чустская, упрыгожаная нацыянальным арнаментам. Такая цюбецейка, калі яе скласці, нагамінае крылы птушкі. Паводле старадаўніх паданняў, існуе сувязь паміж межамі цюбецейкі і птушкай Семург з усходняй легенды.

ЧЗ

## СУПРАЦЬ СНІДу – З ВАКЦЫНАЙ

*Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, яна збіраецца правесці масавыя выпрабаванні на людзях дзвюх вакцын супраць СНІДу.*

Праверку эфектыўнасці вакцыны плануецца распачаць у Тайландзе, Бразіліі і ва Уругваі.

## ЗАБОЙСТВА ДАЧКІ

*У Страсбургу пачалося расследаванне, звязанае з забойствам 15-гадовай турэцкай дзяўчынкі.*

У забойстве абвінавачваюцца яе бацька, родны і стрыечны браты. Паводле паказанняў бацькі, ён забіў дачку за тое, што яна пакахала француза і збегла з ім у Францыю без бацькоўскага благаславення. На думку бацькоў, іх дачка заплямiла гонар сям'і.

## НАПАЛІ НА СЛЕД

*Паліцыя Тайланда знайшла дзве скрыні з каштоўнасцямі.*

Каштоўнасці, на іх думку, з'яўляюцца часткай тых скарбаў, якія 5 гадоў таму былі выкрадзены ў кіраўніка Саудаўскай Аравіі з яго палаца.

## СЕКС–БІЗНЕС "ЗАМАРОЖАНЫ"

*У Нью-Йорку ўведзена тэрміновая забарона на развіццё секс-бізнесу.*

Указам гарадскіх улад на працягу года забараняецца адчыняць новыя секс-магазіны, публічныя дамы, парнатэатры і іншыя ўстановы, якія маюць дачыненне да гэтай прыбытковай галіны.

## "ХІТ" РЫМСКАГА ПАПЫ

*Папа Рымскі Іаан Павел ІІ выпусціў дыск з запісамі сваіх малітваў.*

І па попыту, як высветлілася, пабіў усе рэкорды зорак поп-музыкі, у тым ліку і цудоўнай Мадонны.

## НА КІНАФЕСТЫВАЛІ ЎСЁ СПАКОЙНА

*На гэты раз кінафестываль у Егіпце, на якім прысутнічалі палітыкі і кіназоркі з Амерыкі, Расіі, Польшчы, Германіі, абышоўся без "ЧП".*

У мінулым годзе правядзенне аналагічнага мерапрыемства спрабавалі сарваць мусульмане, якія палічылі, што прадстаўленыя на фестывалі фільмы зневажаюць іх веру.

## "ЦУД НЯВІННАСЦІ" ЛОЛАБРЫДЖЫДЫ

*Джына Лолабрыджыда адкрыла гледачам яшчэ адзін бок свайго таленту.*

Апрача кіно, актрыса прафесійна займаецца фатаграфіяй, жывапісам, скульптурай. Пацвярджэннем таго стаў і нядаўні выхад фотаальбома "Цуд нявіннасці", над якім Лолабрыджыда працавала 14 гадоў. Паводле ацэнак спецыялістаў, ён прынёс кіназорцы славу фотамайстра.

## "БІТЛЗ" ЗАЎСЁДЫ Ў ЦАНЕ

*Першы запіс "Бітлз" на радыё прададзены з аўкцыёна за 17200 даляраў.*

Яго набыў мадрыдскі шоу-бізнесмен. Песня "Love Me Do" прагучала па "Радыё Люксембург" у 1963 годзе. Выступленне стала пачаткам шляху маладой ліверпульскай чацвёркі да славы і поспеху.

## СЦІНГ ЯШЧЭ БОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫ

*Новы альбом Сцінга "Fields Of Gold" з яго лепшымі хітамі ўзняў спевака яшчэ на адну прыступку папулярнасці.*

У альбом увайшла і новая песня "When We Dance", якая паспела заваяваць Сцінгу поспех у сусветнай аўдыторыі меламанаў.

ДЗЕЦІ І МЫ

# Душа стварае прыгажосць

*Апошнім часам усё большая колькасць людзей звяртаецца да Бога. Хтосьці знаходзіць у веры спакой і ачышчэнне, нехта — сэнс жыцця, а ёсць і такія, хто слепа кіруецца модай... Але ўсе яны абавязкова сустракаюцца ў храме з выявамі Хрыста, Багародзіцы і шматлікіх святых. Аднак далёка не кожны можа адказаць на пытанне, адкуль з'явіліся ў царкве тыя іконы і вобразы, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай службы, і што ўяўляе сабой наш сучасны беларускі іканапіс. Ці існуе ён наогул?*

Імёны старадаўніх іканапісцаў Андрэя Рублёва і Феафана Грэка чулі, напэўна, усе. Але гэта — у Расіі. На Беларусь жа іканапіс прыйшоў з Кіева, у часы Еўфрасінні Полацкай, якую лічаць нябеснай заступніцай Беларускай зямлі. У гады Савецкай улады пісаць іконы лічылася амаль што крымінальным. А калі ўзгадаць, у якой колькасці вывозіліся іконы за мяжу, дадаўшы сюды яшчэ тую ідэалогію, пабудаваную на выхаванні пакалення атэістаў, — можна толькі здзіўляцца, што гэтае старажытнае мастацтва захавалася наогул. Але знайшліся моцныя духам, што вытрымалі шматлікія выпрабаванні, дачакаўшыся светлых часоў.

Мінская школа іканапісу была створана ў 1990 годзе. І першымі навучэнцамі (што наведвалі на той час розныя нядзельныя школы) зрабіліся ў асноўным дзеці ва ўзросце васьмі гадоў і крыху старэйшыя, але былі і дарослыя. Спачатку ўсе яны займаліся ў даволі добрым ЖЭСаўскім памяшканні, і будучыня ўяўлялася ім тады зусім бязвоблачнай. Аднак, у рэшце рэшт, са школы запатрабавалі грошы, якіх у яе не было, — і юныя мастакі перасяліліся ў невялічкую кватэрку, дзе напачатку вочы "лашчылі" хіба што голыя сцены. Але сваё існаванне школа не спыніла... Мне захацелася даведацца, што ж так вабіць маладых людзей і тым больш дзяцей да гэтага надзвычай складанага мастацтва — бо той, хто малюе ікону, павінен адчуваць яе душою. Пра гэта я і запытаўся ў першага выкладчыка школы Вячаслава Шугалы.

— Перш-наперш, павінна быць вялізнае жаданне пазнаць рэчаіснасць і ўменне адчуць яе, — паведаміў ён. — Лепш за ўсё гэта атрымліваецца ў дзяцей пасля дзесяці гадоў, калі яны пачынаюць ужо асэнсоўваць жыццё, імкнуцца да ўласнага духоўнага развіцця. Іконы, намаляваныя імі, выглядаюць больш шчыра, чым у старэйшых мастакоў, бо пачуцці ў такім узросце святлейшыя, чым у дарослых... Акрамя рэалізацыі пэўных здольнасцей, нашыя навучэнцы знаходзяць тут сабе сапраўдных сяброў, усе яны веруючыя і шчыра імкнуцца да Бога. Зрэшты, да іконы чалавек прыходзіць рознымі шляхамі. Ёсць, напрыклад, людзі, якія адчуваюць моцную незадаволенасць жыццём, спрабуюць адшукаць сэнс уласнага існавання. Такім наша школа, лічу, вельмі дапамагае...

— А дзе можна купіць вашыя іконы? — пацікавіўся я.

— У продажы іконы навучэнцаў не з'яўляюцца, убачыць іх можна толькі на выставах, адна з якіх, дарэчы, была арганізавана ўвосень у Музеі дзіцячай творчасці. Пакуль што нашыя іконы не асвячаюцца ў царкве, але ў будучыні мы, безумоўна, будзем гэта рабіць. У "перспектыўных планах" — таксама разнастайная дабрачынная дзейнасць, збіраемся рэстаўрыраваць і афармляць храмы. Калі-небудзь мяркуем увесці ў школе 5—6-гадовае навучанне, але сёння гэта немагчыма — няма ні грошай, ні памяшкання... Між іншым, нашая школа — першая і адзіная ў Мінску, ды вядома, што адразу нічога не бывае...

— Так, асноўная наша праблема — адсутнасць належных умоў, недахоп, так бы мовіць, "творчай плошчы", — пацвердзіў словы свайго калегі другі выкладчык школы Георгій Сутулін, які працуе тут са студзеня 94-га года. — Аптымальны варыянт адначасовага навучання — 7 чалавек, а класаў няма. На жаль, мы не маем ні бібліятэкі, ні патрэбных кніг, ды і грошай таксама не хапае, хоць яны і не самае галоўнае. Вельмі разлічваем на Кірыла-Мяфодзіеўскае брацтва, дзе адкрыты рахунак, да якога мы таксама маем дачыненне. А з часам яшчэ, акрамя іканапісу, мяркуем займацца і рознымі відамі прыкладнога мастацтва — трэба адраджаць тое, што страцілі...

Сёння памяшканне школы іканапісу месціцца ў невялікай двухпакаёвай кватэры, прыгожа аформленай даволі цікавымі творамі мастака Віталя Чарнабрысава, які спрабуе выразіць сябе праз так званае "наіўнае мастацтва". Мне чамусьці падумалася, што такімі малюнкамі было б выдатна ўпрыгожваць дзіцячыя кніжкі... І ад ягоных, і ад дзіцячых твораў, што я там убачыў, узнікае пачуццё надзвычайнай шчырасці і чысціні. Памятаеце, як казаў сусветна знакаміты кампазітар Глінка: "Каб стварыць сапраўдную прыгажосць, трэба самому быць чыстым душою". Напэўна, і ў выкладчыкаў, і ў навучэнцаў школы іканапісу душы менавіта такія...

**Мікалай ЦЯПЛОЎ.**

ПАМЯЦЬ

"Жыццё чалавечае — імгненне ў вечнасці, а памяць людская вечная", — гаворыць нам народная мудрасць.

**Вельмі многае па ўвекавечанню памяці загінуўшых робіцца ў Бярозаўскім раёне. Ініцыятарам гэтай высакароднай справы з'яўляецца старшыня Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Аляксандр Мікалаевіч Алексяюк. Толькі нядаўна тут адрэстаўрыраваны могілкі часоў Першай сусветнай вайны, у народзе празваныя "аўстрыйскімі". На тэрыторыі раёна ўстаноўлены памятны знак на Броннай Гары — месцы расстрэлу фашыстамі 50 тысяч грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, помнік загінуўшым у Афганістане.**

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

*з гісторыі Беларусі*

# ФЛАТЫЛІЯ

спынялася і прыслухоўвалася, з падвоенай асцярожнасцю абыходзячы падазроныя месцы, вяртаючыся ў атрад. Раптам аўтаматная чарга парушыла лясную цішыню, узляцела асвятляльная ракета. У святле гэтай ракеты група ўбачыла замаскіраваныя нямецкія танкі, бронетранспарцёры і матацыклы. Іван Максімавіч зразумеў, што яны наткнуліся на засаду, немцы іх высачылі, і ўпотай прайсці не ўдасца. Трэба прарывацца скрозь варожую засаду. А гітлераўцы ўжо беглі да іх з усіх бакоў. Адусюль чуліся аўтаматныя і кулямётныя чэргі. Разведчыкі адкрылі агонь у адказ. Адстрэльваючыся нахаду з ручнога кулямёта і аўтаматаў, адбіваючыся ад матацыклаў і танкаў гранатамі і бутэлькамі з гаручай сумяссю, маракам удалося вырвацца з засады. Але немцы не думалі іх адпускаць да сваіх. Яны ўпарта праследавалі разведчыкаў, ішлі за імі па пятах. Матрос Сямашка зразумеў, што ўцячы ад праследавання праціўніка ім не ўдасца. Узяўшы у раненага таварыша ручны кулямёт і крыкнуўшы Шафранскаму, каб той адыходзіў з усімі ў атрад, матрос заняў абарону ля дрэў. Падпусціўшы праследвальнікаў бліжэй, Сямашка даў па іх трапную чаргу. Гітлераўцы адказалі яму ўраганным агнём. Завязалася жорсткая перастрэлка. Калі ў апошнім кулямётным дыску скончыліся патроны, Сямашка ўзяўся за аўтамат і працягваў страляць па праследвальніках. Але хутка скончыліся патроны і ў аўтамаце. Калі ён замаўчаў, немцы, зразумеўшы, што ў разведчыка скончыліся патроны, кінуліся да яго, каб узяць жывым у палон. Але як толькі яны падбеглі да яго зусім блізка, пачуўся выбух. Трыма гранатамі, якія Сямашка паспеў звязаць разам, ён падарваў сябе і акружыўшых яго ворагаў.

Выслухаўшы даклад Шафранскага, маёр зразумеў, што сотні маракоў, якая знаходзілася ў яго распараджэнні, цяжка будзе стрымаць націск ворага, сілы якога перавышалі ў многа разоў. І ўсё ж трэба было любой цаной утрымаць мост у сваіх руках да падыходу савецкіх войск, якія прыбудуць да Асцёра не раней, чым да сярэдзіны 25 жніўня. З надыходам цемры Дабржынскі скрытна пераправіў байцоў на правы бераг Дзясны і размясціў іх паўкругам уздоўж абочын дарогі, якая вяла да моста. Артылерыю ён пакінуў на левым беразе. Яна павінна была з пачаткам варожай атакі весці абарончы агонь па дарозе, адсякаючы пры гэтым варожую пяхоту ад танкаў і бронемашын. На досвітку 25 жніўня, пасля артылерыйскай падрыхтоўкі, праціўнік аднавіў наступленне, спрабуючы з ходу ўзяць мост. Калі варожыя танкі і аўтаматчыкі параўняліся з месцам засады маракоў, яны былі сустрэты гранатамі і бутэлькамі з гаручай сумессю. Узводы, размешчаныя на флангах, адкрылі кулямётны і аўтаматны агонь. Імкнучыся любой цаной захапіць мост цераз Дзясну, праціўнік увёў у бой рэзервы. Да ўезда на мост ён сцягнуў амаль усе свае сілы для рашаючага ўдару, не звяртаючы ніякай увагі на флангі. У гэты момант Дабржынскі загадаў маракам контратакаваць ворага. На гітлераўцаў, нечакана для іх саміх, з абодвух флангаў рынуліся маракі. З правага фланга іх вёў у атаку сам камандзір атрада. Немцы не вытрымалі дружнага націску маракоў і, думаючы, што наступае вялікая групоўка савецкіх войск, хутка пачалі адыходзіць да лесу, кідаючы на полі бою падбітую тэхніку, забітых і параненых. Праследуючы ворага, маракі заўважылі кінутую разлікам, батарэю 37мм калібру, якая стаяла на агнявых пазіцыях у хмызняку. Сярод матросаў знайшліся артылерысты. Развярнуўшы гармату, яны адкрылі флангавы агонь па ўцякаючых немцах. Да самага лесу байцы атрада праследавалі ворага. Затым Дабржынскі, разумеючы, што праціўнік можа апамятацца, сабрацца з сіламі і контратакаваць, загадаў усім вярнуцца на зыходныя пазіцыі. Перамога каштавала атраду вельмі дорага: кожнага чацвёртага не далічыліся ў страі. Камандзір атрада загадаў эвакуіраваць раненых у тыл, а забітых пахаваць у брацкай магіле на беразе Дзясны. Хутка маёру далажылі, што вярнуўся матрос Лебедзеў, паранены ў руку. Стоячы перад камандзірам, ён заявіў, што яго рана не такая ўжо страшная, каб ехаць лячыць яе за край свету, у той час як яго таварышы змагаюцца з ворагам. Хоць ён зрабіў дрэнна, пакінуўшы санітарны поезд, парушыўшы тым самым воінскую дысцыпліну. Дабржынскі дараваў яму гэты праступак і дазволіў застацца ў атрадзе, які на працягу ўсяго дня, 25 жніўня, працягваў адбіваць атакі ворага. Доўгачаканая дапамога прыйшла толькі на досвітку 26 жніўня. Да гэтага часу ў атрадзе маёра Дабржынскага ў страі заставалася толькі невялікая жменька байцоў. Калі савецкія армейскія часці прыбылі да Асцёра, яны здзівіліся і не маглі паверыць у тое, што такі невялікі атрад змог больш як суткі ўтрымліваць мост і, да таго ж яшчэ, умудрыўся контратакаваць варожую групоўку, якая рвалася да Дзясны. Па просьбе сухапутнага камандавання атрад маракоў да 5-га верасня заставаўся ў раёне Асцёра і вёў разведку, здабываючы каштоўныя звесткі пра праціўніка.

Да сярэдзіны верасня 1941 г. змяніць становішча на франтах на сваю карысць савецкім войскам не ўдалося. Перавага заставалася на баку праціўніка. Аднак, удасканальваўся і баявы вопыт маракоў Пінскай ваеннай флатыліі. Фарсіраваўшы Дзясну ля Чарнігава і Асцёра, нямецкія войскі развівалі наступленне ў агульным напрамку на Нежын, стварыўшы сур'ёзную пагрозу войскам правага фланга Паўднёва-Заходняга фронту, якія непасрэдна абаранялі Кіеў. Камандаванне Кіеўскага ўмацаванага раёна імкнулася затрымаць варожыя войскі на рубяжы Асцёр—Нежын, каб выйграць час для арганізаванага адводу войск з Кіева. З гэтай мэтай на дадзены рубеж былі накіраваны часці, якія адышлі з міжрэчча Дняпра і Дзясны, а таксама дывізія пагранвойск і два бранепоезды. Аднак уначы 14 верасня перадавыя атрады танкавых і механізаваных войск праціўніка, якія фарсіравалі Дзясну ля Асцёра, перарэзалі чыгуначную лінію Нежын—Кіеў і выйшлі ў раён Гогалева. Тым самым адыход да Кіева двум савецкім бранепаяздам быў адрэзаны. Сухапутнае камандаванне знайшло выйсце з узнікшай сітуацыі. Успомніўшы пра атрад маёра Дабржынскага, яно паставіла перад імі задачу: разам з сухапутнымі войскамі любой цаной знішчыць передавыя атрады ворага, якія прарваліся да Гогалева, і выйсці да чыгункі. Усевалад Мікалаевіч і начальнік штаба капітан Яўменаў разам з камандзірамі батальёнаў і рот сухапутных войск распрацавалі план дзеянняў, сутнасць якога заключалася ў наступным: улічваючы, што праціўнік не паспеў яшчэ ўмацаваць захопленую тэрыторыю рэзервамі, тэрмінова пачаць наступленне і сумеснымі сіламі выбіць ворага з раёна Гогалева, а таксама заняць участак чыгункі ля станцыі Бобрык і надзейна ўтрымліваць да адыходу браняпаяздоў.

На досвітку 15 верасня пачалося наступленне маракоў пры падтрымцы палявой артылерыі і сухапутных войск Паўднёва-Заходняга фронту. Немцы аказалі жорсткае супраціўленне. Па меры набліжэння маракоў да чыгункі яны ўводзілі ў бой усё больш і больш артылерыі і мінамётаў, з-за чаго атрад нёс значныя страты. Тады Дабржынскі сканцэнтраваў у адзін ударны кулак тры сухапутныя роты, якія імклівым кідком занялі чыгунку і развілі наступленне ўздоўж яе. Нямецкія перадавыя атрады, якія выйшлі да Гогалева, паступова адышлі за чыгунку, таму што ўбачылі ў дзеяннях савецкіх войск пагрозу абыходу іх з фланга. Да канца дня 15 верасня патрэбны ўчастак чыгункі быў поўнасцю ачышчаны ад ворага. Аднак, маракоў чакалі новыя цяжкасці і выпрабаванні. Нягледзячы на вялікія страты ў асабовым саставе, ім трэба было не дапусціць прарыву праціўніка ў напрамку Гогалева і Барыспаля, да якога адыходзілі з Кіева войскі Паўднёва-Заходняга фронту.

16—18 верасня варожыя аўтаматчыкі пад прыкрыццем танкаў і бронемашын, неаднаразова пачынаючы ўсё новыя і новыя атакі, спрабавалі прарвацца з боем на Гогалеў і Барыспаль, але кожны раз натыкаліся на рашучае супраціўленне савецкіх маракоў. Усе іх атакі заканчваліся няўдачай. Але і маракі за кожную адбітую атаку расплачваліся сваім жыццём. Пасля ранішняга бою 18 верасня ў атрадзе засталося менш як трэць асабовага саставу. Заканчваліся боепрыпасы і прадукты харчавання. Гітлераўцы пачалі новую атаку. Пад прыкрыццем танкаў і артылерыі яны пачалі наступленне з поўначы. Сабраўшыся з апошнімі сіламі, маракі падпусцілі ворага на блізкую адлегласць, а затым кінуліся ў контратаку. Завязалася жорсткая, кровапралітная схватка, у выніку якой праціўнік, не вытрымаўшы націску савецкіх маракоў, адышоў на зыходныя пазіцыі. Але і маракі заплацілі за сваю перамогу вельмі дарагой цаной. На полі бою палягла большая частка іх таварышаў па зброі. Сярод забітых быў і іх бясстрашны камандзір маёр Усевалад Мікалаевіч Дабржынскі. У жывых засталося толькі дваццаць сем маракоў, якія пад камандаваннем капітана Яўменава вечарам 18 верасня адышлі разам з сухапутнымі часцямі да Барыспаля, каб у далейшым прадоўжыць барацьбу з ненавісным ворагам, адпомсціць яму за смерць сваіх таварышаў і мужнага, бясстрашнага камандзіра.

Кароткі, але яркі след у гісторыі баявой дзейнасці Пінскай ваеннай флатыліі летам-восенню 1941 г. пакінуў атрад маракоў пад камандаваннем маёра Дабржынскага. У жнівеньскіх і вераснёўскіх баях 1941 г. камандзір атрада яшчэ раз практычна даказаў, што ваяваць трэба перш за ўсё ўменнем, а не колькасцю. Нездарма атрад маракоў Пінскай флатыліі накіроўвалі на тыя ўчасткі фронту, дзе не маглі спыніць ці затрымаць на некаторы час ворага сухапутныя войскі. Маракі флатыліі паказалі сябе ў гэтых баях здольнымі паслядоўнікамі ваеннага майстэрства рускага і савецкага флатоў.

**Рубрыку вядзе доктар гістарычных навук, прафесар Мікола КУЗНЯЦОЎ.**

КУР'ЕР "ЧЗ"

## Хрыстос прызямліўся ў... Доме літаратара

*29 лістапада ў Доме літаратара адбыўся спектакль-містэрыя па матывах рамана Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".*

Перад паказам яго пастаноўшчык Юрый Царэнка выступіў з прамовай. Ён сказаў, што ў гэтым творы рэжысёры убачылі нешта блізкае да сярэдневяковых дзействаў-містэрый.

— Ажыццявіў пастаноўку народны тэатр "Жывое слова" Мінскага педагагічнага універсітэта, якому споўнілася ўжо 29 год.

**Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.**

## Тэлефон– выратавальнік

*Незвычайны тэлефон даверу з'явіўся нядаўна ў Гродна. Набраўшы нумар 45-47-95, кожны гараджанін можа паскардзіцца на цяжкасці жыцця, падзяліцца сваімі праблемамі і атрымаць добразычлівую параду. Але гэта палова справы. Ля тэлефона, што ўстаноўлены ў гарадскім цэнтры псіхалагічнай дапамогі моладзі, працуюць прафесійныя псіхатэрапеўт, псіхіятр, сацыяльны педагог, псіхолаг. І калі адчуваюць, што абаненту патрэбна дапамога — прызначаецца асабістая сустрэча.*

Такім чынам, вырашыцца ў горадзе вельмі актуальная праблема. Не кожны чалавек асмеліцца звярнуцца па псіхалагічную дапамогу да медыкаў, не кожны нават разумее, што такая дапамога яму патрэбна. Тэлефон-выратавальнік дапамагае маладым людзям пераадолець гэты бар'ер. Дарэчы, звоняць па тэлефоне даверу не толькі гродзенцы, але і жыхары суседніх Літвы і Польшчы.

## Быць ці не быць заказніку

*Стварыць дзяржаўны ландшафтны заказнік на тэрыторыі Ліпічанскай пушчы — з такой прапановай выступіў Гродзенскі абласны камітэт аховы прыроды.*

Паводле задумкі, у заказнік павінны ўвайсці прыбярэжныя лясы Нёмана і Шчары агульнай плошчай каля 50 тыс. га.

Пакуль прапанову падтрымалі толькі дэпутаты Дзятлаўскага райсавета. Народныя ж абраннікі двух іншых раёнаў, на тэрыторыі якіх знаходзіцца пушча (Мастоўскага і Шчучынскага) вагаюцца. Без энтузіязму паставілася да гэтага і абласное аб'яднанне лясной гаспадаркі.

Між тым, пакуль ідуць спрэчкі, Ліпічанская пушча — адзін з самых маляўнічых куткоў прыроды на Гродзеншчыне — можа і не захавацца для нашчадкаў.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

КУЛЬТУРНЫ АДПАЧЫНАК

### ТЭАТР МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ

*9 снежня. Г.Даніцэці. "Viva la Mamma!"*

Камічная опера ў 2-х дзеях пра жыццё тэатра. Толькі для дарослых.

### ТЭАТР-СТУДЫЯ КІНААКЦЁРА

*6,7 снежня. Ю.Оснас. "Нябачны сябра".*

У спектаклі ўдзельнічаюць два вядомыя акцёры — Аляксандр Ткачонак і Любоў Румянцава. П'еса пастаўлена паводле перапіскі вядомага кампазітара Чайкоўскага з невядомай жанчынай. Яны ніколі не бачыліся, але кахалі адзін аднаго, і іх сумеснае жыццё праходзіць у пісьмах.

### ДОМ АФІЦЭРАЎ

*6 снежня.*

Сольныя канцэрты лаўрэата міжнародных конкурсаў, поп-зоркі беларускай эстрады Іны Афанасьевай пры ўдзеле шоу-групы Аляксандра Шабаліна, артыста эстрады і кінапарадыста Георгія Волчака. Вас чакае 100 хвілін смеху, песень і танцаў!

### БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ. Канцэртная зала

*8 снежня.*

Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік Валянцін Дудкевіч. Канцэртная праграма "Карагод сяброў".

**Падрыхтавала Ганна МАСЛЯКОВА.**

